

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець
у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №10 (135)
ЖНІВЕНЬ 2021 ГОДА

ПЕТЫЦЫЯ

## «АЛЕНЬ КУЛЬГАЕ, КОНІ ХУДЫЯ...»

**Віцябляне просяць закрыць гарадскі заапарк. Петыцыя пад назвай «Просім закрыць заапарк у горадзе Віцебск!» з'явілася на платформе petition.by 4 ліпеня 2021 году. За два тыдні пад ёй падпісаліся 270 чалавек. Зварот быў накіраваны ў Віцебскі гарвыканкам і Віцебскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. 23 ліпеня прыйшоў афіцыйны адказ, які падпісаў намеснік старшыні гарвыканкаму Віктар Глушын.**

«Гэтым зваротам просім звярнуць вашую ўвагу на ўтрыманне жывёлаў у віцебскім заапарку. Мяркуем, жывёлы не атрымліваюць належны догляд: у чарапахі праламаны панцыр, вальеры маленькіх памераў, недагледжаныя, чыстай вады няма, алень кульгае, ветэрынарная дапамога не аказваецца, коні худыя, у малпаў стаіць брудная вада, платы гнілыя, і гэта толькі малая частка таго, што там адбываецца», – гаворыцца ў петыцыі.

Аўтары звароту спасылаюцца на пастановы Мінпрыроды «Аб устанаўленні патрабаванняў да зместу і (або) разводзенню дзікіх жывёлаў у няволі» і «Ветэрынарна-санітарныя правілы гадавання жывёлаў і правядзення ветэрынарных мерапрыемстваў у заапарках» Міністэрства сельскай гаспадаркі, а таксама на ўказ Прэзідэнта «Аб удасканаленні кантрольнай (наглядной) дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» і на Закон «Аб жывёльным свеце».

Звяртаюць увагу мясцовых органаў улады на тое, што «дзікія жывёлы павінны ўтрымлівацца ў вальерах, клетках, басейнах, акварыумах і (або) іншых памяшканнях для ўтрымання дзікіх жывёлаў у няволі, нормы плошчы, аб'ёму, вышыні і глыбіні якіх не могуць быць менш, чым мінімальныя нормы памяшканняў для ўтрымання дзікіх жывёлаў».

Паводле заканадаўства, «памяшканні павінны быць абсталяваныя пабудовамі і прыстасаваннямі, якія забяспечваюць жыццядзейнасць дзікіх жывёлаў у няволі і ўлічваюць індывідуальныя асаблівасці выгляду (кармушкі, аўтапаілкі, абагравальнікі, сістэмы ачысткі і аэрацыі вады, дрэнажныя сістэмы, якія адводзяць лішкі вады з памяшкання, вадапоі, норы, гнёзды, стаўкі, басейны, гроты ды іншае), а таксама ўтрымліваць грунт (пясок, гліна, камяні рознай велічыні і іншае) або субстрат рознай шчыльнасці (торф, мох, габлюшка і іншае)».

Неабыякавыя грамадзяне папрасілі каб улады правялі праверку па прыкметах невыканання службовымі асобамі Віцебскага заапарка патрабаванняў па ўтрыманню дзікіх жывёлаў у няволі і правядзенні ветэрынарных мерапрыемстваў, устаноўленых заканадаўствам. У выпадку ўстанаўлення фактаў парушэння заканадаўства – прыцягнулі вінаватых асоб да адказнасці, а таксама – зрабілі захады па закрыцці віцебскага заапарку.

Паводле адказу, атрыманага з гарвыканкаму, «дзікія жывёлы ва ўстанове культуры «Віцебскі заалагічны парк» утрымліваюцца ў клетках, вальерах і іншых памяшканнях для ўтрымання жывёлаў, нормы плошчы якіх адпавядаюць нормам плошчы памяшканняў, вызначаным пастановай Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь».

Віктар Глушын указвае, што жывёлы, якія знаходзяцца ў жаласным стане (напрыклад, чарапаха і алень) паступілі ў заапарк ужо ў такім выглядзе. Нібыта «алень быў дастаўлены Бешанковіцкай інспекцыяй прыродных рэсурсаў пасля таго, як ён з прастрэленым плячом прыйшоў на хутар мясцовага жыхара». Коні ж, наагул, на думку чыноўніка, «знаходзяцца ў добрай фізічнай форме».

Ці збіраюцца ўлады закрываць заапарк, канкрэтнага адказу не прагучала. Афіцыйны адказ чыноўнік завяршае сцвярджэннем, «што існуюць альтэрнатыўныя пункты гледжання ў гэтым пытанні» і спасылаецца на карэспандэнта газеты «Віцьбічы», які пабываў у мясцовым заапарку.

Ці гатовыя ўлады прымаць альтэрнатыўныя пункты гледжання ў гэтым пытанні, невядома.

**Віталь Емяльянаў
«Віцебская вясна»**

ПЕРАСЛЕД

## ОБЫСК У ФИЛАНТРОПА

**У витебского филантропа Жукова силовики изъяли оргтехнику, но он на свободе.**

11 августа у предпринимателя Максима Жукова, занимающегося восстановлением усадьбы витебского ботаника Адамова в Лётцах, прошел обыск, в ходе которого изъяли технику. «Друзья! Я пока на свободе, телефона и компьютера нет со всеми вытекающими. Больше не могу ничего сказать в связи с подпиской о неразглашении. Все мои аккаунты могут быть скоро не моими», — написал он на своей странице в facebook.

Максим Жуков известен в Витебске, как организатор ряда культурных проектов. В частности, он восстанавливает усадьбу ботаника Владмира Адамова в Больших Лётцах. В прошлом году во время начала эпидемии коронавируса предприниматель даже был вынужден распродать коллекцию старинных мотоциклов, чтобы найти деньги на содержание усадьбы.

Во время августовских протестов Максим Жуков был задержан в день голосования и просидел в изоляторе временного содержания пять суток, потом его задерживали в сентябре, он провел под арестом еще трое суток.

Примечательно, что сегодня Жуков собирался осмотреть сохранившуюся в Новке усадьбу и бюст ботанику Адамову, который там должен быть установлен.

**Народныя навіны Віцебска**

Чытайце сайт
Віцебскага раёна:
http://vicebskreg.by

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## "ЦІ Я ПАДАЗРАВАНЫ, ЦІ Я АБВІНАВАЧАНЫ?"

**Віцебскага праваабаронцу Паўла Левінава падазраюць у фінансаванні пратэстнай дзейнасці. Такую выснову зрабіла актывістка Таццяна Севярынец, якую выклікалі ў Следчы камітэт, піша Беларускае Радыё Рацыя.**

«Пытанні былі звязаныя з Левінавым, BY HELP і «Вясной». Падчас ператрусу ў Паўла Левінава забралі камп'ютар, і як мне сказалі, на носьбітах інфармацыі былі квітанцыі за аплату штрафаў. Я казала, што штрафы мы аплачвалі самі, а потым і квітанцыі, і пратаколы – увесь пакет дакументаў, аддавалі Левінаву, і ён рыхтаваў судовыя скаргі. Гэта ўсё бясплатна», – расказала Таццяна Севярынец.

Таксама следчыя распытвалі, ці абяцалі ўдзельнікам пратэстаў аплаціць іхныя штрафы і ці даваў ім праваабаронца грошы. На такія пытанні былі вымушаныя адказваць дзясяткі жыхароў Віцебску, пакараныя за нібыта ўдзел у несанкцыянаваных акцыях. Кагосьці выклікалі ў Следчы камітэт, а да некаторых следчыя прыходзілі проста дахаты.

Што да праваабаронцы Паўла Левінава, то ён не атрымліваў са Следчага камітэту аніякіх афіцыйных звестак пра крымінальную справу, у межах якой праводзяцца допыты віцяблян.

«Я звярнуўся ў цэнтральны апарат Следчага камітэту Рэспублікі Беларусь. Запытаўся, ці распачатыя нейкія крымінальныя справы, па якіх артыкулах, які ў мяне статус – ці я падазраваны, ці я абвінавачаны, ці была абраная нейкая мера стрымання. І прасіў патлумачыць лёс забраных у мяне рэчаў і грашовых сродкаў», – патлумачыў Павел Левінаў.

Ператрус у Паўла Левінава быў праведзены 16-га лютага. Праваабаронца цвердзіць, што не рабіў ніякіх супрацьпраўных дзеянняў. Але яму дагэтуль не вярнулі аргтэхніку і дакументы, якія цяпер вывучае Следчы камітэт.

**«Радыё Рацыя»**

РЭСУРСЫ ДЗВІНЫ

## НА ВОДНОЙ ГЛАДИ ВОЗЛЕ КУРИНО

**Для многих витебских рыбаков привлекательны места на Западной Двине возле деревни Курино. Здесь находятся известные куринские ямы, где водятся сомы, щуки, судаки, лещи. В поисках трофея сюда съезжаются спиннингисты и приверженцы донных снастей.**

В последнее время в обиход вошло еще одно понятие с прилагательным «куринский», а именно – песок. Из-за отсутствия извести он востребован у производителей керамических изделий. Куринский песок состоит из мелкой фракции и имеет насыщенный коричневатый оттенок.

В навигационный период здешние воды бороздят суда филиала «Витебскводтранс» РУЭСП «Днепро-Бугский водный путь». Экипажи теплоходов, плавучих кранов (КПЛ), земснаряда, через 3-7 суток сменяя друг друга, доставляют на берег важный строительный материал.

Как сообщил директор предприятия Анатолий Леонов, в числе основных потребителей «Витебский ДСК», «Жилстрой», «Завод сборного железобетона №3», «Керамика». Речной песок использовался при возведении в областном центре Полоцкого путепровода и реконструкции ул. Гагарина. В коллективе трудятся около ста человек, непосредственно на реке – сорок. Анатолий Леонов считает, что с такими людьми можно горы свернуть. Ежегодно растут объемы реализации песка и соответственно зарплата. По итогам работы в 2020-м «Витебскводтранс» занесен в областную Доску почета.

По словам капитана-наставника Леонида Лепёшкина, из речников выход только один – на заслуженный отдых. Те, кто приходят работать на воду, настолько пропитываются духом романтики и коллективизма, что на берег, как говорится, не выгнать. Среди таких людей экипаж теплохода в составе

*(працяг на стар. 2)*

РЭСУРСЫ ДЗВІНЫ

***(пачатак на стр. 1)***

капитана Виталия Якубовского и моториста Вячеслав Ивахненко.

Виталий работал в строительной отрасли, слесарем-ремонтником. Но затем «река позвала». Стал мотористом земснаряда, потом в Гомеле закончил школу командного состава и уже шестую навигацию на капитанском мостике. Вячеслав пришел в «Витебскводтранс» в 2015-м, до этого трудился в убойном цехе мясокомбината.

Крановщик Максим Михейко родом из Ушач. После армии вслед за молодой женой уехал в Мозырь, устроился в речной порт. Работал первым помощником капитана буксира, в основном занимались очисткой русла Припяти. Командировки длились до пятнадцати суток. Поднимались вверх по течению могучей полесской реки до Микашевичей Брестской области и спускались вниз почти до Чернобыльской АЭС.

Через десять лет по семейным обстоятельствам Максим Михейко вернулся в северный регион и пришел в «Витебскводтранс», чтобы найти работу по специальности. Вакансий на теплоход не было, предложили должность моториста на КПЛе. Более года назад он пошел на повышение в прямом и переносном смысле – стал крановщиком. Теперь Максим находится в кабине в метрах пяти над палубой, управляя ковшом при загрузке и разгрузке баржи водоизмещением 300 т. На каждую операцию уходит около трех часов. В течение этого времени крановщик сотни раз совершает круговые движения. За смену доставляется 2-3 баржи. Рабочая вахта у экипажа Максима Михейко длится семь суток, соответственно за ними следует неделя выходных.

В речном флоте с давних времен сохраняется понятие «колпитание» (коллективное питание). В месяц каждому члену экипажа выделяется 150 руб. для приобретения продуктов на время вахты. В складчину речники затариваются всем необходимым – овощами, макаронами, крупой, тушенкой, мясом, консервами.

Обязанности повара на судах возложены на мотористов с соответствующей доплатой. Камбуз оборудован электрической и газовой плитами, холодильником, микроволновкой. В быту помогает стиральная машина, в кают-компании установлен телевизор с DVD-приставкой.

Воды Западной Двины скрывают еще много тайн. Несколько лет назад на старой площадке по течению ниже Витебска ковш КПЛа одну за другой стал вынимать забитые в дно деревянные сваи. Вероятно, они были основой моста. Вдруг ковш зацепил нечто такое, что мощный кран с 30-тонным противовесом накренился. Находку так и не смогли поднять. Возможно, КПЛ наткнулся на танк или большое артиллерийское орудие времен войны. Но это уже другая история.

**«Витебские вести»**

МАХЛЯРСТВА

# ПРЫСУД ЧОРНАМУ РЫЭЛТАРУ

**Суд Першамайскага раёна прыгаварыў 47-гадовага жыхара Віцебска, які прадаў дзве чужыя кватэры, да 7 гадоў 6 месяцаў пазбаўлення волі. Акрамя таго ён павінен заплаціць штраф 5800 рублёў.**

У ходзе судовага разбіральніцтва было ўстаноўлена, што віцяблянін з чэрвеня па снежань 2020 года падманам завалодаў кватэрамі двух жыхароў абласнога цэнтру, чым прычыніў ім школу на 19 і 56 тысяч рублёў адпаведна.

Пры здзяйсненні здзелак ён абяцаў пацярпелым набыць больш таннае жыллё або перадаць грошы праз пэўны перыяд часу. Пры гэтым, на думку суда, віцяблянін першапачаткова не меў намеру выконваць узятыя на сябе абавязацельствы, а атрыманыя ад продажу кватэр грошы выдаткаваў на сябе.

Акрамя таго, яшчэ аднаго пацярпелага мужчына падбухторваў даць хабар, які прызначаўся нібыта для супрацоўнікаў праваахоўных органаў і іншых асобаў. У выніку ашуканскім шляхам ён завалодаў чужымі грашыма ў буйным памеры.

У выніку суд прызнаў мужчыну вінаватым у махлярстве, здзейсненым паўторна, у буйным і асабліва буйным памерах, а таксама падбухторванні да дачы хабару.

На падставе частак 3 і 4 артыкулу 209, часткі 5 артыкула 16 і часткі 2 артыкула 431 КК яго прысудзілі да пазбаўлення волі на тэрмін 7 гадоў 6 месяцаў з адбываннем у папраўчай калоніі ва ўмовах строгага рэжыму са штрафам у памеры 5800 рублёў. Прысуд уступіў у законную сілу, паведамляе служба інфармацыі пракуратуры Віцебскай вобласці.

**Якаў Дрозд**

ПРАВАСЛАЎЕ

# ВОЗРОЖДАЕТСЯ ТАДУЛИНСКИЙ МОНАСТЫРЬ

**Монастырь находится в деревне Слобода Витебского района. История обители тесно связана с трокским воеводой Тадеушем Огинским, который, в 1772–1774 годах построил здесь каменный храм.**

После революции монастырь практически сразу же упразднили. Монахиням было предложено вернуться к родственникам или вступить в ближайший колхоз. Последнее документальное упоминание про обитель датируется 1928 годом. По устным же свидетельствам, сестры здесь пробыли приблизительно до 1938 года, когда Свято-Успенский собор окончательно закрыли. Монахиню Есфирь арестовали, и в 1941 году она скончалась в сталинских лагерях.

Во время войны собор был взорван немцами при отступлении. Однако старожилы вспоминали, что еще в 1950-х годах в полуразрушенном храме оставались даже уцелевшие фрески. К середине 1960-х годов здесь практически ничего не осталось — только разрушенный подвал, где местные жители затем хранили продукты.

Знаменательной датой для монастыря является 4 апреля 2011 года.

В этот день Синод Белорусской православной церкви принял решение о возрождении монастыря на том же месте, где он был раньше. С самого начала его настоятельницей стала монахиня Илария (Болт). Монахиня вспоминает, как впервые приехали сюда с архиепископом Витебским и Оршанским Димитрием. Состояние участка восторга не вызвало. Все было заброшено, замусорено. 28 августа 2011 года в престольный для обители праздник Успения Божией Матери на холме, где стоял храм, провели первый молебен.

Пока не было где жить, обосновались на подворье в районе агрогородка Вороны, где построили небольшой монастырский домик. Это была как стартовая площадка. Через четыре года, когда окрепли, перебрались в Слободу, где на горе уже была часовня в честь Успения Божией Матери.

За это время построили сестринский корпус. Есть гостиница для паломников, где они могут отдохнуть после долгого пути, и для тех, кто хочет потрудиться в монастыре.

Сейчас в обители проживают 13 человек. Кроме самой настоятельницы, это схимонахиня, три монахини, пять инокинь и три послушницы. Три дня в неделю ведутся службы со священником. В остальное время сестры здесь молятся самостоятельно и утром, и днем, и вечером.

Монахини ведут не только духовную жизнь. Сестры в свободное время и в плане послушания занимаются хозяйством. На огороде выращивают корнеплоды и другую продукцию. Собирают травы, заготавливают иван-чай. Практически сами снабжают себя продовольствием. В магазине покупают только крупу, масло, сахар. Да еще пока не пекут сами хлеб.

В ближайших планах игумени Иларии — восстановление храма Александра Невского. Сейчас уже закончены проектно-изыскательские работы. Пока нет финансовых и иных возможностей провести раскопки территории. Это дело перспективы.

*(скарочана)*

**«Віцьбічы»**

КРЫМІНАЛ

# НІЯКАЙ ПАЛІТЫКІ – АЛКАГОЛЬ

**12 жніўня суд Першамайскага раёну Віцебску вынес судовае рашэнне ў справе беспрацоўнага віцябляніна Аляксандра Ш., абвінавачанага паводле арт. 364 КК («Гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў альбо з помсты за выкананне службовай дзейнасці»).**

Першае паседжанне ў справе адбылося 11 жніўня. Паводле пракуратуры, увечары 13 траўня Аляксандр Ш. знаходзіўся ў грамадскім месцы ў стане алкагольнага ап'янення. Меў неахайны знешні выгляд, ледзьве трымаўся на нагах. Учыніў правапарушэнне, прадугледжанае ч. 2 арт. 19. 3 КаАП («Распіванне алкагольных напояў у грамадскім месцы»). 14 траўня суд Першамайскага раёну Віцебску аштрафаваў яго на 5 базавых велічынь.

Пры затрыманні мужчына абражаў міліцыянтаў ППС Васількова і Клінцова такімі словамі, якія нібыта «прыніжалі гонар і годнасць супрацоўнікаў унутраных спраў пры выкананні імі службовых абавязкаў». Тым самым учыніў правапарушэнне, прадугледжанае ч. 1 арт. 24.4 КаАП («Абраза службовай асобы пры выкананні службовых паўнамоцтваў»). 14 траўня суд Першамайскага раёну аштрафаваў яго на 20 базавых велічыняў.

Апроч таго, Аляксандр Ш. адмовіўся выконваць «законныя патрабаванні міліцыянтаў і выказаў пагрозу ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў Васількова і Клінцова». Пагражаў забойствам і прычыненнем пашкоджанняў цела. Нанёс удар галавой у вобласць галавы сяржанта Клінцова.

Паводле дасудовага следства, дзеянні Ш. былі кваліфікаваныя паводле арт. 364 («Гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў альбо з помсты за выкананне службовай дзейнасці»).

У судовым працэсе былі апытаныя пацярпелыя Клінцоў і Васількоў. Яны засведчылі, што 13 траўня ў адказ на скаргі наведнікаў кавярні ў краме «Веста» міліцыянты ППС змусілі Аляксандра Ш. пакінуць памяшканне. Пасля выхаду на вуліцу Аляксандр Ш. рушыў у бок більярднай. Гэтае дзеянне міліцыянты палічылі адмовай спыніць супрацьпраўныя паводзіны. Сяржанты Васількоў і Клінцоў падышлі да Аляксандра Ш. і паведамілі, што ён затрыманы ў сувязі з учыненнем адміністрацыйнага правапарушэння. У адказ Ш. праявіў агрэсію, аказаў супраціў, абразіў міліцыянтаў, ужыўшы нецэнзурную лексіку. Пагражаў забойствам і нанёс удар галавой у вобласць галавы Клінцова.

У судзе Аляксандар Ш. віну прызнаў у поўным аб'ёме, хаця каментаваць свае дзеянні, запісаныя пры затрыманні на міліцэйскі відэафіксатар «Дазор», адмовіўся. Заявіў, што ў той дзень шмат выпіў і не памятае падзей, якія адбыліся ўвечары 13 траўня. Аляксандр Ш. знаходзіцца на ўліку ў нарколага і пакутуе на хранічны алкагалізм. Пераконваў, што па натуры спакойны і праяўляе агрэсію толькі тады, калі да яго чапляюцца.

У ходзе судовых спрэчак пракурорка заявіла, што віна абвінавачанага даказаная ў поўным аб'ёме, а яго дзеянні кваліфікаваныя па арт. 364. Разам з тым, пракурорка папрасіла суд выключыць адзін з пунктаў абвінавачання, датычны здзяйснення злачынства з помсты за выкананне службовай дзейнасці.

На момант учыненага Аляксандрам Ш. злачынства, яно адносілася да катэгорыі «менш цяжкіх», але пасля зменаў у заканадаўстве было аднесенае да катэгорыі цяжкіх. Пракурорка прасіла суд улічыць гэты момант і прызначыць Аляксандру Ш. пакаранне ў выглядзе аднаго году і шасці месяцаў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму.

12 жніўня суддзя Міхаіл Юрчанка агучыў прысуд. Паводле артыкулу 364 КК суд прыгаварыў Аляксандра Ш. да аднаго году і шасці месяцаў калоніі агульнага рэжыму. У тэрмін адбывання пакарання суд залічыў час знаходжання пад вартай ад 5 чэрвеня з улікам адпаведнасці аднаго дня ўтрымання пад вартай паўтара дням пазбаўлення волі.

«У сённяшняй сітуацыі нават пры самым нязначным гвалце ў дачыненні да супрацоўнікаў МУС у звычайных крымінальных справах суды пачалі выносіць гэткія ж жорсткія прысуды, як і ў справах палітычна матываваных. Сілавікі штучна ўзведзеныя ў нейкую недатыкальную касту. Не зважаючы на тое, ці то абраза, ці то пагроза гвалтам, ці то гвалт – пакаранне цяпер жорсткае. Пракуратура патрабуе значныя тэрміны пакарання і суды зазвычай іх задавальняюць. Гэты артыкул правакуе ў далейшым пастаноўку на ўлік у месцах адбыцця пакарання. Умовы ўтрымання робяцца больш жорсткімі», – пракаментавала сённяшні прысуд паводле арт. 364 віцебская праваабаронца Ірына Траццякова.

**Ян Сведка**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# У ПОШУКАХ АЎТАРАЎ ПРАЕКТАЎ «АНТЫ-РАСІЯ» І «АНТЫ-БЕЛАРУСЬ»

**У публічнай прасторы Саюзнай дзяржавы неалагізм «анты-Расія» быў рэанімаваны Пуціным у артыкуле «Аб гістарычным адзінстве рускіх і ўкраінцаў», апублікаваным 12 ліпеня на сайце Крамля.**




На аўтарства, аднак, маюцца прэтэндэнты. У прыватнасці, пісьменнік-фантаст Леў Вяршынін, які цяпер жыве ў Іспаніі. Яму і дадзім слова: «Я быў першы, хто ўвёў гэтае паняцце ў мову блогаў. Так атрымалася, што я прыдумаў „анты-Расію", але не магу паставіць на яе капірайт, магу толькі напісаць у сваім ЖЖ: „А я ж казаў!" Хто я такі на фоне Пуціна? Проста апошнія 17–18 гадоў я кармлю сваю сям'ю тым, што нядрэнна адгадваю, што потым будзе адбывацца».

Дзякуй за прызнанне. Вось бы мне здольнасць ведаць, што ў прыкупе! Жыў бы ў Сочы, ці хаця б у Іспаніі.

У артыкуле Пуціна я налічыў восем згадак лінгвістычнага ноу-хаў! Абмяжуюся першым: «Крок за крокам Украіну ўцягвалі ў небяспечную геапалітычную гульню,мэтаякой—ператварыць Украіну ў бар'ер паміж Еўропай і Расіяй, у плацдарм супраць Расіі. Непазбежна надышоў час, калі канцэпцыя „Украіна — не Расія" ўжо не задавальняла. Спатрэбілася „анты-Расія", з чым мы ніколі не змірымся».

Узяты ў двукоссе фразеалагізм «Украіна — не Расія» адсылае да бестсэлера экс-прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. У Беларусі кніга з аналагічнай назвай пакуль не напісаная, але развагаў на тэму выкарыстання рэспублікі-партызанкі ў якасці плацдарма супраць Расіі хапае.

Дзе карані гэтакай прапагандысцкай актыўнасці? Першае тлумачэнне ляжыць на паверхні. Вобраз ворага з'яўляецца той печкай, ад якой скачуць дзяржаўныя прапагандысты. Інакш выкідаць пераканаўчыя каленцы не атрымліваецца.

Але ўяўленне пра Захад як пра ворага, а пра Беларусь — як пра яго патэнцыйную ахвяру мае патрэбу ў тлумачэнні. Беларусы — людзі на балоце, а беларускія балоты — лёгкія Еўропы. Каштоўнасць балот у стагоддзе масавай заклапочанасці экалогіяй бесперапынна ўзрастае. Аднак здольнасць нашых балот забяспечваць Еўропу кіслародам ад жадання беларусаў абараняць свой суверэнітэт не залежыць. Які ж тады сэнс бразгаць зброяй на нашых межах?

Ой, не кажы, кума... А падлётны час? За намі Масква! Гэтыя, з NATO, — яны ж спяць і бачаць, як прысунуць свае пускавыя ўстаноўкі бліжэй да Белакаменнай.

Расія не з'яўляецца Беларуссю ў тым сэнсе, што яе багацці балотамі не абмяжоўваюцца. Ахвочых жа паквапіцца на прыродныя багацці Расіі, якія ўтрымліваюць усю табліцу Мендзялеева, на думку прапагандыстаў, хапае….

**Праблема схопленая дакладна**

Слова старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Андрэю Савіных: «Ёсць такі жарт. Пытаюцца: што такое вышэйшая адукацыя ў ЗША? Даецца смешны адказ: гэта рускі прафесар, які навучае кітайскіх студэнтаў матэматыцы.

Захад высмоктвае таленты з перыферыі — прапаноўвае ім больш высокі ўзровень жыцця, больш высокія даходы, фактычна не ствараючы ўласнага інтэлектуальнага прадукту. Гэта парадокс, але ў ЗША больш за 50% патэнтаў выдаецца асобам, якія прыехалі ў ЗША менш за 5 гадоў таму. Гэта сусветны трэнд».

На жаль, запярэчыць мне няма чаго. Праблема схопленая дакладна. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. І не толькі чалавек. Калі на прадметным століку мікраскопа злучыць дзве кроплі з амёбамі водным мастком і асвятліць адну з іх, то праз некаторы час амёбы з асветленай кроплі перамясцяцца ў прыцемненую.

Чаму яны гэта робяць? Інтэрнэт падказвае адказ: таму што валодаюць раздражняльнасцю. Гэтай жа характарыстыкай надзелены многія беларусы. У першую чаргу, маладыя і адукаваныя.

Калі беларускую мадэль злучыць транспартным калідорам з краінамі — удзельніцамі Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР), то і без дадатковага асвятлення пачнецца працэс перамяшчэння разумных і адукаваных.

Нічога новага і незвычайнага ў гэтым няма. Глабальныя міграцыйныя працэсы назіраліся на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. Цікаўным прапаную пачытаць пра «Вялікае перасяленне народаў».

**Табліцай Мендзялеева прафесараў не ўтрымаць**

Рэакцыю на раздражненне — не ліквідаваць і не аслабіць. Раздражняльнасць — фундаментальная ўласцівасць жывога. Але магчымы іншы шлях, і палягае ён у ліквідацыі крыніцы раздражнення. Свой рэцэпт ёсць і ў дэпутата Савіных: «Калі мы ствараем свой уласны макрарэгіён і сваю ўласную эканамічную прастору, то мы гэты трэнд можам спыніць. Я думаю, што гэта рашэнне».

Наколькі прапанова дэпутата рэалістычная? Скіруем свой позірк на постсавецкую прастору. Толькі 3 з 15 постсавецкіх рэспублік набылі сяброўства ў Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця — Літва, Эстонія і Латвія. Па ВУП (па парытэце пакупніцкай здольнасці) у доларах ЗША ўсе яны прыкметна апярэдзілі Расію і Беларусь: 38824, 37745, 31509 vs. 27930 і 20187.

Самая багатая з балтыйскай тройцы — Літва, што не перашкодзіла ёй за перыяд з 1990 па 2020 год страціць чвэрць насельніцтва. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. Ад савецкага «дна» не так проста адштурхнуцца і падняцца да сярэдняга еўрапейскага ўзроўню.

Табліцай Мендзялеева рускіх прафесараў не ўтрымаць, а кітайскіх студэнтаў да сябе не прываблідь. Аналагічная гісторыі Вялікай дзяржавы ад часоў Пятра I, якая ці тое ўстае, ці тое ўжо ўстала з каленяў. Тут самы час працытаваць прафесійнага гісторыка і вядомага дзеяча расійскай рэвалюцыі Паўла Мілюкова: «Коштам спусташэння Пётр зрабіў Расію вялікай дзяржавай».

***

*Можна па-рознаму ставіцца да мудрацоў, якія разважаюць наконт праектаў «анты-Расія» і «анты-Беларусь», але гэтыя праекты існуюць. Аднак пошукі іх аўтараў будуць марнымі — праекты, як у нас прыняць гаварыць, ідуць «ад жыцця».*

*Свет імкліва пераходзіць ад індустрыяльнай эканомікі (індустрыяльнага грамадства) да постіндустрыяльнай эканомікі (постіндустрыяльнага грамадства). А з нязменнай уладай такога пераходу не здзейсніць.*

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.by**

ГАДАВІНА ПРАТЭСТАЎ

# «КОШТ УТРЫМАНЬНЯ ЎЛАДЫ ЛУКАШЭНКІ АКАЗАЎСЯ ВЕЛЬМІ ВЫСОКІМ..»

**Беларусь адзначае гадавіну выбараў, супаўшую з пачаткам масавых пратэстаў. За гэты год мы даведаліся пра Беларусь значна больш, чым за многія папярэднія гады. І пра грамадзтва, і пра кіруючы рэжым.**

Цяпер, магчыма, яшчэ рана падсумоўваць вынікі, вялікае бачыцца на адлегласьці. Але вельмі верагодна, нашы нашчадкі назавуць 2020 год галоўным годам найноўшай беларускай гісторыі, а можа і больш працяглага гістарычнага пэрыяду. Таму што ўпершыню беларускі народ намерыўся стаць суб'ектам палітыкі, узяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларусь уступіла ў свой «восевы час». На менскіх вуліцах лета і восені 2020 года можна было пачуць «голас гісторыі».

Прапаную некалькі важных высноваў.

Была пацьверджана вядомая ісьціна, што гісторыя разьвіваецца не лінейна, што рэвалюцыя, якая не перамагла, абарочваецца рэакцыяй.

Сацыяльна-палітычны працэс, пачаты летам 2020 года, ня скончаны. Хутчэй, ён пастаўлены на паўзу. Палітычны крызіс ня вырашаны, ён загнаны ў глыб, ператвараецца ў пэрманэнтны. Гэты крызіс немагчыма пераадолець у рамках існага палітычнага рэжыму, бо ён ня можа быць вырашаны сілавымі мэтадамі, а іншых спосабаў улады не прызнаюць.

Беларускі социюм ніколі не будзе ранейшым. Вярнуцца ва ўмоўны травень 2020 года ўжо немагчыма. Гэта тычыцца як улады, так і грамадзтва.

Аўтарытарны рэжым, каб выжыць, па неабходнасьці павінен стаць больш жорсткім і недэмакратычным, чым раней. Ён вымушаны ўвесь час знаходзіцца ў ваяўнічай позе ў адносінах да ўнутраных і вонкавых супернікаў. Улада сканцэнтравана выключна на вырашэньні праблем выжываньня, знаходзіцца ў пастаянным напружаньні і таму няздольная вырашаць іншыя праблемы і актуальныя задачы, якія паўстаюць перад краінай.

Мінулы год пераканаўча паказаў, што беларуская сацыяльная мадэль, створаная Аляксандрам Лукашэнкам чвэрць стагоддзя таму, зьяўляецца тупіковай, яна вычарпала свой рэсурс і стала тормазам разьвіцьця краіны. Гэтая мадэль не здольная адаптавацца да ўмоў, што зьмяніліся, а прызначана толькі выключна да ўтрыманьня ўлады за кошт кансэрвацыі сацыяльнага статус-кво.

Пацьвердзілася здагадка, што беларускі рэжым абсалютна рыгідны, няздатны да перамен, пашырэньня сваёй сацыяльнай базы. У момант крызісу рэжым перастаў быць папулісцкім, адмовіўшыся ад спробаў шукаць паразуменьне з грамадзтвам. Выявілася яго арганічная няздольнасьць да пазытыўнага парадку дня. Ва ўлады няма ніякага наратыву будучыні і нават няма разуменьня яго неабходнасьці.

Рашэньне ўсіх праблем рэжым бачыць выключна ў прымусовай легітымізацыі, грубым гвалце ў дачыненьні да ўсіх нязгодных. У прыватнасьці, улады імкнуцца вярнуць манаполію на СМІ з дапамогай зьнішчэньня незалежных мэдыяў, выштурхоўваньня іх у рэзэрвацыю тэлеграм-каналаў. Адбываецца рутынізацыя гвалту, ён становіцца спосабам існаваньня рэжыму.

Адбываецца паскораны працэс дэсакралізацыі ўлады. Большасьць насельніцтва ўспрымае дзяржаву, уключыўшую на поўную магутнасьць мэханізм рэпрэсій, як небясьпеку, пагрозу для грамадзтва. Паводле сацыялягічнага онлайн-апытаньня Нямецкага Цэнтру ўсходнеэўрапейскіх і міжнародных дасьледаваньняў, гвалтам сілавікоў былі закранутыя самі ці праз сям'ю, ці знаёмых да 20% грамадзян. Калі сюды прыплюсаваць палітычных эмігрантаў, якія ратуюцца ад рэпрэсій за мяжой, то колькасьць пацярпелых істотна ўзрасьце.

Абвастраецца ідэалягічная барацьба, канфлікт каштоўнасьцяў. Улады робяць масіраваныя спробы спыніць фармаваньне новай (несавецкай) беларускай ідэнтычнасьці, абвяшчаючы яе нацысцкай. За выкарыстаньне бел-чырвона-белага сьцяга ўводзіцца крымінальнае пакараньне.

Кошт утрыманьня ўлады Лукашэнкі ўжо аказаўся вельмі высокім для Беларусі і працягвае расьці, перш за ўсё, за кошт узмацненьня эканамічных санкцый і міжнароднай ізаляцыі.

У супрацьстаяньні рэжыму з пратэстамі адбыўся часковы дэфолт дзяржаўных функцый. Гэта значыць, дзяржаўныя ўстановы перасталі выконваць свае абавязкі.

Фактычна разбураецца зьнешняя палітыка Беларусі, краіна апынулася ў глухой ізаляцыі, губляе сваю міжнародную суб'ектнасьць.

Цалкам разбурана прававая сыстэма і інстытуты правасудзьдзя, без чаго немагчыма існаваньне паўнавартаснай сучаснай дзяржавы.

…Беларускае грамадзтва атрымала цяжкую псыхалягічную траўму на шмат гадоў.

Галоўным фактарам гэтага ў чымсьці экзыстэнцыяльнага

**(працяг на стар. 4)**

## ГАДАВІНА ПРАТЭСТАЎ

*(пачатак на стар. 3)*

расколу соцыюму зьяўляецца постаць Аляксандра Лукашэнкі.

Важны ўрок 2020 года для апанэнтаў рэжыму палягае ў тым, што народ мабілізуецца на актыўны ўдзел у палітыцы, у прыватнасьці, на пратэст, дзякуючы пазытыўнай праграме (галасаваньне за альтэрнатыўнага кандыдата ў рамках легальнай працэдуры), а не байкоту. Гэта важна ў пляне вызначэньня стратэгіі прыхільнікаў пераменаў у ходзе маючых адбыцца электаральных кампаній.

…Але за год сытуацыя моцна зьмянілася. Захад падтрымлівае імкненьне беларускага грамадзтва да дэмакратычных пераменаў, Расея ж аказвае актыўную дапамогу кіруючаму рэжыму. Беларускі канфлікт набыў геапалітычнае вымярэньне проста ў сілу лёгікі палітычнага працэсу. Сустрэча Сьвятланы Ціханоўскай з Джо Байдэнам стала завяршальнай кропкай, што сымбалізуе гэтую зьмену.

Беларускі палітычны крызіс ператвараецца ў крызіс рэгіянальны. Неўрэгуляванасьць унутрыбеларускай праблемы і нават яе абвастрэньне выліваецца за межы Беларусі, спараджае праблему рэгіянальнай і ўвогуле міжнароднай бясьпекі. Гэта даўно ўжо ня толькі гуманітарнае пытаньне адной краіны. Беларусь, якая з 2014 па 2020 год прэзэнтавала сябе донарам рэгіянальнай і эўрапейскай бясьпекі, на вачах ператвараецца ў фактар росту міжнароднай напружанасьці. Прычым спружына канфрантацыі з Захадам закручваецца ўсё мацней.

*(скарочана)*

**Валер Карбалевіч**
**svaboda.azureedge.net**

## АЛІМПІАДА

# ПОЧЕМУ ОЛИМПИАДА СТАЛА ЛИЧНЫМ ПОРАЖЕНИЕМ…

**От стабильности к деградации**

В суверенной спортивной истории можно выделить два периода. В 1996-2008 гг. Беларусь стабильно привозила с летних Олимпиад 15±2 медали. Но тогда награды добывали атлеты, вышедшие на орбиту еще в допрезидентский период.

На Играх в Лондоне уже должен был проявиться результат инвестиций в спорт, сделанных при Александре Лукашенко. Он лично планировал знаковый рывок.

Но вместо грандиозного успеха случилась «большая неожиданность». На Олимпиаде-2012 белорусские спортсмены завоевали всего 10 медалей.

Это можно было бы счесть случайностью, но нет. Именно с Лондона обозначилась тенденция на деградацию. В Рио-2016 наград оказалось уже 9. Причем единственное золото удалось получить в прыжках на батуте — не самом высококонкурентном и популярном у публики виде спорта.

К Токио готовились уже без громогласного озвучивания амбициозных медальных планов. Тем не менее, стояла задача добыть не менее 20 мест на пьедесталах почета. На практике вышло в три раза меньше. С наградами высшей пробы была бы совсем беда, но опять же спас батут.

Второе золото Беларусь получила бы со 100%-ной вероятностью, если бы в олимпийской программе присутствовал такой «вид спорта», как «скандалы». Попытка досрочно отправить домой бегунью Кристину Тимановскую привела к тому, что она сбежала на Запад. Эта история стала топ-новостью в главных мировых медиа, с большим отрывом затмив все прочие «тарарамы», случившиеся в Токио. Причем главное ЧП Игр устроили на ровном месте — благодаря цепной реакции некомпетентности чиновников разных уровней.

В итоговом медальном зачете Беларусь заняла место в середине пятого десятка, пропустив вперед такие «спортивные державы», как Уганда, Эквадор, Косово... Косово!!! И, кстати, многие постсоветские государства: Узбекистан, Грузию, нашу южную соседку, у которой, по версии пропаганды, всё разваливается. «Хотите как в Украине?» (рэд. Украіна атрымала 19 медалёў)

**Кто виноват и что дальше?**

…Основной разбор полетов, впрочем, еще впереди. В «предвкушении» грандиозного шухера кое-кто подал в отставку, не дожидаясь окончания Олимпиады, — как, например, руководитель федерации тенниса Сергей Тетерин, суливший две золотых медали в своем виде.

Как правило, Александр Лукашенко спрашивает за провалы на конкретных направлениях с их руководителей. Но... он сам возглавлял Национальный олимпийский комитет на протяжении без малого четверти века. А когда вынужден был все-таки оставить этот пост, передал его по наследству — старшему сыну.

Виктор Лукашенко получил эту должность, в том числе исходя из расчета, что токийская Олимпиада станет триумфом семейного клана. Однако эти ожидания оказались обмануты, причем жесточайше.

Конечно, стрелки можно перевести на министра спорта. Но, объективно говоря, с Сергея Ковальчука спрос невелик. Всё-таки он по специальности артиллерист с опытом работы в президентской службе безопасности. Главное спортивное достижение Ковальчука — третье место на чемпионате по бильярду среди сотрудников и ветеранов органов безопасности стран СНГ. Так что, спрашивать нужно с того, кто назначил человека с близким к нулевому управленческим опытом сразу на пост министра. А это опять же Александр Лукашенко.

Конечно, по итогам разбора полетов будет дан ряд «ценных указаний», что нужно сделать, чтобы Беларусь на следующих Олимпиадах показала всем кузькину мать. Но, если это не удалось сделать за все предыдущие годы правления, то нет никаких оснований полагать, что под тем же «мудрым руководством» удастся переломить ход событий в будущем. 27 лет — достаточный срок, чтобы продемонстрировать уровень своей …компетентности.

Более того, на горизонте маячит перспектива очередного провала. Менее, чем через полгода, должна начаться зимняя Олимпиада в Пекине. И весьма вероятным выглядит сценарий, в котором по итогам этих Игр в графе «медали» у Беларуси впервые будет значиться 0.

**"Філін"**
**gazetaby.info**

## «БОЛЬШОЙ РАЗГОВОР»

# ВЛАСТЬ УПОРНО НЕ ХОЧЕТ ВИДЕТЬ ПРИЧИН БЕЛАРУСКОГО КРИЗИСА

**Во время «Большого разговора с президентом», прошедшего в Минске 9 августа, в годовщину президентских выборов, Александр Лукашенко охотно рассуждал о многом. Но не было разговора о главном — причинах того жестокого общественно-политического кризиса, который охватил Беларусь после выборов-2020.**

Точнее, была нарисована далекая от реальности схема. Лукашенко отметил, что «мы тогда провели подготовку к выборам и сами выборы в условиях тотальной гласности и демократизации политической жизни», в то время как другая сторона готовилась, мол, «к перевороту».

**Почему тогда люди вышли на улицы**

На деле с самого начала прошлогодней избирательной кампании власти, почувствовав политический подъем населения, избрали как никогда жесткий сценарий. Попали за решетку главные потенциальные конкуренты Лукашенко — Сергей Тихановский, Виктор Бабарико, а также опытные организаторы уличных акций из числа старой оппозиции — Николай Статкевич, Павел Северинец.

Избирательные комиссии вертикаль сформировала поголовно из своих людей. Возможности независимых наблюдателей практически свели к нулю под предлогом ковида. Подсчет голосов велся абсолютно непрозрачно.

Власти мешали проводить агитационную кампанию Светлане Тихановской, которая тем не менее стремительно набирала популярность. И в итоге, судя, в частности, по данным гражданской инициативы «Голос», она набрала гораздо больше голосов, чем написал ей Центризбирком.

Именно возмущение официальными цифрами, чувство украденных голосов вывело на улицы белорусов, голосовавших за политическую альтернативу. Если глубже, причина была в том, что общество переросло законсервировавшуюся власть, захотело перемен.

Да, в первые дни после выборов были локальные стычки с силовиками, но в целом августовские марши носили мирный, иногда даже карнавальный характер. Не было попыток штурмовать административные здания, стратегические объекты.

**Власть демонизирует политических оппонентов**

Лукашенко же назвал участников протестов «очумелыми», обрисовал их как агрессивную толпу, которая была нацелена на «блицкриг». При этом заявил, что «их на пике было (а есть методика подсчета) 46 700 — в Минске. Собрали со всей страны».

Он отрицал жестокость со стороны силовиков, назвал фейком свидетельства избиений, издевательств в печально известном изоляторе на Окрестина (разве что, мол, «получили» те, кто «ринулся бить ментов»).

При этом он дал понять, что в случае атаки на государственные объекты по манифестантам мог быть открыт огонь. Это штрих к дискуссии, правильным ли был мирный характер протестов. В ином случае могло бы пролиться море крови. Шансов победить вооруженных силовиков не было.

Речь Лукашенко изобиловала ругательствами в адрес политических противников, слово «мерзавец» было одним из самых частых. Совершенно очевидно, что руководство режима не собирается идти на диалог с другой частью общества, условно говоря — сторонниками перемен. Курс на их подавление продолжится.

При этом власть стремится демонизировать оппонентов: мол, это сплошь ворюги (Бабарико), бандиты и т.п. Это делается для того, чтобы оправдать самые жесткие репрессии.

Пока конца им не видно. В частности, Лукашенко открыто заявил, что продолжится уничтожение независимых медиа: «Мы зачистим эту дрянь. И зачистили. И будем чистить».

В таком же ключе он высказался о молодежи, уезжающей учиться в Литву, Польшу: «Коль пошли на зачистку, то будем чистить всё». Мол, если уехали на промывку мозгов, то пусть там и остаются.

Лукашенко дал понять, что не поспешит освобождать политических заключенных. Готов рассмотреть лишь возможность помиловать тех, за кого поручится Юрий Воскресенский, составивший список из ста человек. Надо понимать, речь идет о готовых раскаяться, как раскаялся сам Воскресенский.

Тема новой конституции была затронута в общих чертах. Похоже на то, что Лукашенко пока сам не до конца определился с ее конкретикой и своим местом в новой политической системе. Впрочем, вряд ли она окажется принципиально новой.

Вопрос об уходе Лукашенко, новых выборах остался не проясненным. Он заметил, что «не надо гадать, когда уйдет Лукашенко и так далее. Очень скоро». При этом дал понять, что следующим президентом станет кто-то из его окружения, что у противников нынешнего политического курса шансов не будет.…

**Кризис придавлен, но не разрешен**

Это пиар-мероприятие, которое Лукашенко провел в наступательном ключе (в частности безжалостно контратаковал корреспондентов западных СМИ), было призвано прежде всего вдохновить, консолидировать его сторонников, а также перетянуть на свою сторону электоральное болото.

Твердых противников режима «Большой разговор», естественно, не переубедил. Но такой задачи и не было. Эти люди, по замыслу, должны только бояться.

Главный месседж состоял в том, что система устояла под натиском «очумелых», которых дергали за ниточки западные кукловоды, что она крепка и незыблема. И даже когда Лукашенко уйдет, президентом станет кто-то из преданных ему людей. То есть политическая альтернатива не пройдет никогда. В этом плане несогласной части белорусов навязывается ощущение фатализма.

Беспрецедентное насилие действительно позволяет режиму решить на какое-то время проблему удержания власти, контроля над обществом. Внутриполитический кризис придавлен бетонной плитой репрессивной политики, однако никак не разрешен. Людей можно запугать, но мозги им не переделаешь.

При этом «Большой разговор» еще раз показал, что у нынешней власти нет никакой вразумительной программы развития, никакого образа будущего. Все рассуждения крутились вокруг наведения порядка на советский манер, а то и пожестче.

Правящая верхушка и ее пропаганда стремятся навязать обществу свою повестку дня, заглушить, перечеркнуть те вопросы, которые год назад вывели множество белорусов на улицу: о справедливых выборах, смене власти, развитии страны.

Но эти вопросы никуда не денутся.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**naviny.online**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 15.08.2021 у 16.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.